**№59 (1622)**
Аўторак, 1 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень у абласных цэнтрах чакаецца: у Мінску — -3...-5, воблачна, снег, уначы — -12...-14; у Віцебску — -3...-5, воблачна, снег, уначы — -6...-8; у Брэсце — +3...+5, ясна, без ападкаў, уначы — -2...-4; у Гомелі — -1...-3, воблачна, снег, уначы — -4...-6; у Гродне — +1...+3, ясна, без ападкаў, уначы — -6...-8; у Магілёве — -2...-4, воблачна, снег, уначы — -7...-9. Вецер паўночны, 6—10 м/с.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## «Мінская вясна-2003»

Традыцыйны музычны фестываль адкрыецца ў сталіцы 6 красавіка.

Канцэрты пройдуць на розных сцэнічных пляцоўках горада. Гэта звязана з рамонтам будынка філармоніі. Выступленні ўдзельнікаў фестывалю будуць арганізаваны на сцэнах Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, у зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і зале камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Удзел у фестывалі возьмуць такія вядомыя калектывы, як Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, дырыжыраваць якім будзе Карэн Ніксан Лейн (ЗША), Мінскі струнны квартэт, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы, капэла "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута.

Апроч таго, у рамках фестывалю, які працягнецца да 29 красавіка, пройдуць канцэрты камернай, скрыпічнай, фартэпіяннай і арганнай музыкі.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## 14 вядомых дзеячаў нацыянальнай навукі і культуры вылучаны кандыдатамі ў склад Рады беларускай інтэлігенцыі

14 вядомых дзеячаў нацыянальнай навукі і культуры вылучаны кандыдатамі ў склад Рады беларускай інтэлігенцыі на пасяджэнні аргкамітэта Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які адбыўся ўвечары 28 сакавіка ў Мінску.

Удзельнікі пасяджэння прыйшлі да высновы, што рада павінна стаць аўтарытэтным органам, куды ўвойдуць асобы нацыянальнага маштабу, вядомыя ў свеце, якія валодаюць бясспрэчнай рэпутацыяй. Рада заклікана кансалідаваць дэмакратычныя сілы, прычым па найважнейшых пытаннях жыцця грамадства яна будзе фармуляваць пэўную пазіцыю, з якой, як лічыць аргкамітэт, лічыўся б беларускі народ і ўлады краіны.

У склад рады з дзевяці чалавек прапанавана 14 кандыдатур. Гэта — пісьменнікі Святлана Алексіевіч, Вольга Іпатава, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, драматург Алесь Петрашкевіч, кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі, вучоныя Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Генадзь Лыч, Адам Мальдзіс і Іван Нікітчанка.

Мяркуецца, што з персанальным складам кандыдатаў у раду будуць азнаёмлены ўсе ўдзельнікі Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які адбыўся 16 сакавіка. Пасля шырокага абмеркавання прапанаваных кандыдатур, якое прадоўжыцца да канца красавіка, аргкамітэт зацвердзіць склад рады. Затым адбудзецца ўрачыстая цырымонія пасвячэння членаў рады з запрашэннем прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

Паводле слоў сустаршыні рабочай групы, кінарэжысёра і педагога Уладзіміра Коласа, рэзалюцыя сходу накіравана да кіраўніцтва краіны і ва ўсе пасольствы і СМІ, у тым ліку дырэкцыі тэлеканалаў БТ, СТВ і ОНТ. Акрамя таго, як паведаміў У.Колас, у пасланнях да кіраўнікоў тэлеканалаў утрымліваецца просьба прадаставіць эфір удзельнікам форуму, каб яны маглі азнаёміць грамадства з вынікамі сходу.

У.Колас таксама зазначыў, што пасля зацвярджэння складу Рады беларускай інтэлігенцыі аргкамітэт сходу мяркуецца рэарганізаваць у выканкам рады.

**Марат ГАРАВЫ.**

## У Маскву — каля 6 тысяч тон мясапрадуктаў і 11 тысяч тон мяса

Дагаворы на пастаўку з Беларусі ў Маскву ў 2003 годзе каля 6 тысяч тон мясапрадуктаў і 11 тысяч тон мяса заключаны падчас Міжнароднай выставы-кірмашу "Мяса і мясапрадукты", якая днямі праходзіла ў расійскай сталіцы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## У пажарах загінулі чатыры чалавекі

Чатыры чалавекі загінулі падчас пажараў, што адбыліся ў Беларусі ў мінулыя выхадныя. Паводле звестак прэс-службы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, за два дні ратавальнікі ажыццявілі 85 выездаў для ліквідацыі пажараў, выратаваны шэсць чалавек, матэрыяльных каштоўнасцей на суму звыш 95 мільёнаў рублёў.

Змяншэнне колькасці пажараў, адзначаюць у МНС, звязана, у першую чаргу, з пацяпленнем. Толькі адзін пажар з гібеллю чалавека адбыўся за апошнія два дні з-за парушэння правіл пажарнай бяспекі — пры эксплуатацыі печы. Ахвярай агню стала гаспадыня аднаго з прыватных дамоў вёскі Весялова Лепельскага раёна Віцебскай вобласці. Пажар у доме пенсіянеркі пачаўся ў ноч з 30 на 31 сакавіка, калі жанчына спала.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ, БелаПАН.**

**КРЫМІНАЛ**

## У Маскве арыштаваны лідэр беларускіх бандытаў

У Маскве арыштаваны лідэр міжнароднай арганізаванай злачыннай групы, якая на працягу васьмі апошніх гадоў учыніла 11 заказных забойстваў на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Польшчы. Пра гэта паведамілі расійскія СМІ са спасылкай на прэс-службу Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю (ГУБАЗ) МУС Расіі. Расійскія міліцыянеры арыштавалі 32-гадовага Мікалая Маркоўскага, вядомага ў крымінальных колах як "Маркоўка". Мікалай Маркоўскі знаходзіўся ў вышуку з 1999 года. Яго шукалі за стварэнне ўзброенай злачыннай групоўкі, у склад якой уваходзілі больш за два дзесяткі чалавек, якія ўчынялі разбоі, рабаўніцтвы, забойствы і падпалы. Менавіта М.Маркоўскі, паводле расійскіх СМІ, ураджэнец вёскі Пятровічы Брэсцкага раёна, які адбываў раней тэрмін за вымагальніцтва, стварыў банду, што займалася рабаўніцтвам і выкананнем "заказных" забойстваў. Каля года таму групоўка распалася і ўсе яе ўдзельнікі разбегліся па розных краінах.

На пачатку 2003 года да сышчыкаў расійскага ГУБАЗ звярнуліся іх калегі з Беларусі, якія паведамілі, што М.Маркоўскі пад імем Алега Заброднага перыядычна з'яўляецца ў Маскве. На працягу двух месяцаў работнікі ГУБАЗ высочвалі яго ў сталіцы, і, урэшце, на мінулым тыдні "Маркоўка" "засвяціўся". 26 сакавіка ён вырашыў правесці ў аэрапорт сваю жонку.

Калі экс-лідэра банды затрымалі ў аэрапорце "Шарамецьева", следчыя вырашылі выйсці на яго саўдзельнікаў. Яны прыдумалі "легенду", паведаміўшы жонцы, што затрымалі яе мужа за падробную рэгістрацыю, і пагадзіліся пры дапамозе буйной грашовай сумы вырашыць пытанне без завядзення крымінальнай справы. Аднак у жонкі Мікалая Маркоўскага такіх грошай не аказалася, і яна стала тэлефанаваць членам яго групоўкі. Так сышчыкі выйшлі на 40-гадовага Фёдара Бачкова. Менавіта ён, паводле праваахоўных органаў, быў непасрэдным выканаўцам цэлага шэрагу заказных забойстваў па загадзе М.Маркоўскага.

Цяпер абодва арыштаваныя знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Вырашаецца пытанне аб іх экстрадыцыі ў Беларусь. Правяраецца прыналежнасць М.Маркоўскага і Ф.Бачкова да ўчынення злачынстваў на тэрыторыі Расіі.

## Махляр прадстаўляўся інспектарам

Дзве крымінальныя справы ў дачыненні да 50-гадовага непрацуючага мінчаніна ўзбуджаны Першамайскім РУУС сталіцы.

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязей ГУУС Мінгарвыканкама, у чэрвені мінулага года гэты чалавек на тэрыторыі станцыі тэхнічнага абслугоўвання на вуліцы Кнорына, а таксама на тэрыторыі цэха па афармленні помнікаў на вуліцы Сацыялістычнай, прадставіўшыся інспектарам гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, схіліў двух індывідуальных прадпрымальнікаў да дачы хабару ў суме 50 тысяч рублёў і 50 долараў ЗША за непрыманне мер у сувязі з парушэннем прыродаахоўных норм.

Зламыснік адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. Праводзіцца расследаванне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**СЛЫШАЛИ?**

# Сегодня ночью Саддам Хусейн приземлился в Национальном аэропорту «Минск»

## Беларусь предоставила ему политическое убежище




Как стало известно "Народной воле" из источников в Администрации президента Республики Беларусь, минувшей ночью в Национальном аэропорту "Минск" приземлился "Боинг-777" авиакомпании "Ираки Эйруэйз", принадлежащий президенту Ирака Саддаму Хусейну. Работники таможни аэропорта подтвердили факт прохождения процедуры таможенного контроля Саддамом Хусейном, в результате которой у гостя Беларуси не было обнаружено ничего запрещенного к ввозу на территорию нашей страны.

Причиной неожиданного визита Саддама Хусейна в Минск стало, как утверждают источники в белорусском МИДе, принятое им решение не подвергать риску "себя самого и членов семьи" во время бомбардировок в Ираке союзнической авиации и желание переждать опасность в тихой синеокой Беларуси.

Вместе с поварами и членами семьи Саддама Хусейна в Минск прилетели два самолета сопровождения со 150 охранниками и запасом пищи на два месяца.

Остановился Саддам Хусейн во всемирно известной резиденции "Дрозды", в доме, соседствующем с виллой А.Лукашенко.

Пресс-конференция с участием президента Ирака ожидается завтра в конце дня. Журналистам, желающим принять участие в пресс-конференции, предлагается выслать свои вопросы по факсу в иракское посольство, а также своевременно пройти аккредитацию.

**Александр СИЛИЧ.**

*(Продолжение сенсационной темы читайте на 3-й стр.)*

# Бомбят Америку

*В зеркале иракской войны отразилось многое. В том числе и то, как официальный Минск манипулирует государственными СМИ*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

В первые пару дней операции союзников белорусские официальные и полуофициальные масс-медиа даже как-то приятно удивили. Иракская тема подавалась достаточно оперативно, взвешенно, с информационным насыщением. Видимо, еще не было четкой установки сверху — в какую дудку дудеть. Сработало и то, что по известным экономическим и политическим причинам у отечественных СМИ практически нет своих корреспондентов в горячих точках и крупнейших столицах. Потому поневоле пришлось прибегнуть к авторитетным мировым источникам. В мировых же медиа, в частности, четко работает принцип отделения информации от комментария.

Но потом в государственных белорусских СМИ на всю катушку заработала до боли знакомая метода грубой пропаганды, когда факты дохнут под пятой идеологических штампов. Теперь только те, у кого спутниковая тарелка или доступ в Интернет, могут следить за перипетиями мировой драмы во всех нюансах. Наши же официальные масс-медиа занялись привычным делом — костят в хвост и гриву проклятых империалистов. Сюжет самой войны, полифония мирового общественного мнения — все это далеко на задворках. А на первом плане — привычные ярлыки.

Понятно, что тон задан на высшем уровне. Белорусский президент, когда давал на днях интервью российскому журналу "Наш современник", заклеймил Москву за бесхребетность в иракском вопросе. А также призвал возродить боевые традиции советской пропаганды на большом идеологическом семинаре. Нашим публицистам старой закалки не привыкать. Они даже как-то помолодели и воспрянули духом, будто наяву увидели Никиту Хрущева с ботинком в руке и адресованным Америке возгласом "Мы вас похороним!".

Война — самое последнее дело. Страшно, когда "умные" бомбы союзников тупо крушат рынки и жилые дома. Но почему белорусам не говорят, например, что ракеты Саддама тоже летят в эти дни на мирные кварталы Кувейта — и только мощная ПВО срезает их почти все? А многие ли у нас знают, что Хусейн, вызывающий столь теплые чувства у иных наших державных мужей, пришел к власти через кровавый переворот и методично практиковал "исчезновения" политических противников (как выясняется, многих просто растворял в соляной кислоте)? Почему, восхваляя Саддама как сильного руководителя, от наших граждан стараются утаить, что этот "друг" развязал две войны за чужие — иранские и кувейтские — земли, сгубил в этих бойнях сотни тысяч своих сограждан, а также исправно снабжал боевиков, что взрывали автобусы с израильскими детишками? А знает ли рядовой белорус, коего пичкают лишь сюжетами антивоенных манифестаций, что Буш в его акции против Хусейна пользуется все-таки поддержкой большинства соотечественников? Последние опросы зафиксировали, **что за военную операцию выступают примерно две трети американцев**. К слову, политика белорусских властей, по данным наших социологов, куда менее популярна в массах.

Речь не о том, что бомбы — лучший аргумент в борьбе за глобальную безопасность и высокие идеалы. Речь о том, что нашим согражданам надо говорить всю правду о крупнейшей мировой коллизии нового тысячелетия. Но это невыгодно официальному Минску. На иракской войне делается расчетливый пиар в пользу руководящей белорусской верхушки. Мол, посмотрите, как были правы наши вожди, ругая Америку с ее демократией. Не нужна нам их пресловутая демократия! Вот они, кодовые слова — **не нужна демократия!**

Так в мозги электорату вбивается мысль, что надо отгородиться от "тлетворного влияния Запада", особенно Штатов. Народ призывают — эти мысли муссировались на упомянутом семинаре по идеологии — идти неким самобытным путем в качестве духовных лидеров восточнославянской цивилизации. Настоящая же цель подобных установок — законсервировать режим, сохранить устои авторитарной власти.

Теперь поняли, откуда такой ренессанс антиимпериалистической пропаганды и почему наши государственные СМИ так мощно обрушили на Вашингтон свои "умные бомбы"?

*"Белорусские новости"*

## Заявление Посольства США по поводу недавних арестов на митингах по случаю 85-й годовщины образования БНР

23 и 25 марта дипломаты Посольства США наблюдали за ходом митингов в ознаменование 85-й годовщины со дня образования Белорусской Народной Республики. В обоих случаях в центре Минска собрались сотни мирных демонстрантов всех возрастов для того, чтобы отметить это важное событие в истории Беларуси. Эти мирные собрания были встречены милицией и отрядами ОМОНа. Для разгона мирных демонстраций власти применили силу. Десятки людей были арестованы, в том числе случайные свидетели, находившиеся не вблизи места проведения митинга.

Мы осуждаем применение силы для разгона мирных демонстраций и аресты многих их участников и случайных свидетелей. Мы осуждаем вынесенные суровые приговоры и призываем правительство Беларуси освободить Винцука Вячорку, Вячеслава Сивчика, Павла Северинца, Евгения Афнагеля и других задержанных. Мы призываем правительство Беларуси соблюдать свои международные обязательства и не препятствовать своим гражданам в реализации ими права на мирное выражение протеста.





# Як жыць? Як дажываць?

## або, Пра тлустую абалонку вакол шэрага рэчыва ў тых, хто прывык браць «пад казырок», слухаючы «дальнабачныя» ўказанні саноўных чыноўнікаў

**Васіль ГРОДНІКАЎ**

### А есці хочацца заўжды



Размова пра добрую і танную яду, якой хочацца кожны дзень і пажадана некалькі разоў у суткі, — пэўна, будзе прыемнай (цікавай) не толькі для душы, але і для страўніка. Гэтая праблема для кожнага з нас займае бадай што самае першае месца, асабліва пасля таго, як значна павысіліся цэны на камунальныя і іншыя тэхнічныя паслугі і адпаведна панізіліся нашы магчымасці пры візітах у прадуктовыя магазіны і на рынкі.

Ну, мяркуйце самі: пенсіянер, які жыве ў аднапакаёвай "хрушчоўцы", плаціць кватрплату, скажам, 30 тысяч за месяц. На лекі ў сярэднім — столькі ж. Цяпер лекі сталі яшчэ больш "кусацца". На яду застаецца ў лепшым выпадку 30—50 тысяч. А калі ён яшчэ курыць і любіць ранкам выпіць кубачак кавы для бадзёрасці ў такім узросце, — застаецца толькі на хлеб і ваду. Ну, можа яшчэ і на кефір ды па дольцы крывянкі на кожны дзень месяца. Вось так цяпер жывуць "багатыя" пенсіянеры.

А што гаварыць пра тых, хто з працоўных атрымлівае не 100 долараў, а палову ці чвэрць ад славутай "лукашэнкаўскай" зарплаты? Не ўсе ж атрымліваюць шмат. Нават на тых прадпрыемствах, дзе сярэдняя зарплата перавышае "прэзідэнцкую", і там нямала людзей, чыя зарплата ледзь-ледзь дасягае палавіны мінімальнага пражытачнага мінімуму. Я ўяўляю, як яны грызуць локці, калі ўспамінаюць апошнія дзве кампаніі прэзідэнцкіх выбараў. Як яны прамахнуліся! А была такая надзея... А здавалася ім... Ды што пра тое гаварыць. Сярод іх, калі, крый Божа, і яшчэ раз прыйдзецца галасаваць за цяперашняга прэзідэнта, прамахнуцца і яшчэ раз, наслухаўшыся, разявіўшы рот, песень усеўладнага "салавейкі".

Некаторыя рады нават таму, што ёсць: няхай сабе і недаядаюць, але ж гэта і не сухая галадоўка. Хоць мудрыя людзі папярэджваюць: галодны чалавек надзвычай сярдзіты і небяспечны не толькі для навакольных, але і для самой улады. Вось чаму наверсе гэта прыпомнілі, і ўрад (не без згоды прэзідэнта) вымушаны быў выкраіць са свайго пірага лустачку, праз якую не толькі сонейка, але і хмаркі відаць — аж 7 працэнтаў надбаўкі да пенсіі. Такога "прыкорму" нават не хапіла заплаціць за электрычнасць. Што пры сённяшніх цэнах надбаўка ў 7 тысяч? Цьфу і ўсё! Яна даўно ўжо з'едзена інфляцыяй і дэвальвацыяй. А ва ўрадзе гэты "крок" запісаны ў свой актыў. А з гэтага "актыву" — нуль наедку!

Як жыць? Як дажываць?..

Да фінішу прыйдзеш тонкі, звонкі і празрысты — адны косткі ды скура. Іншым разам думаеш сам сабе: усё жыццё стараўся для дзяржавы, як казалі, "сначала о Родине, потом — о себе". А калі і назапасіў што, то "вожык у тумане" (гэта я пра колішняга прэм'ер-міністра СССР т.Паўлава) з'еў. Добра яшчэ, што сёе-тое засталося, каб зараз даношваць. Але шмат што з таго набытку адпалавініла моль. Калі па гаспадарцы, то яшчэ нешта можна насіць, а так...

### Двурушнікі

Гэта я расказваю большым чынам не для вас, паважаныя чытачы. Вы гэтыя праблемы ведаеце і адчуваеце на сваім бюджэце, на сваім стале, на сваім страўніку. Я, на ўсякі выпадак, расказваю гэта тым чыноўнікам, якія не адчуваюць на сваім стале недахопу. Хоць і ведаю, што сыты галоднаму не таварыш. Наіўны я чалавек, што ў такія гады яшчэ спадзяюся, што хоць неяк крану іх душу і прымушу іх атлусцелае шэрае рэчыва працаваць больш эфектыўна і вынаходліва на карысць бедных слаёў насельніцтва.

Праўда, недзе на дне сваёй душы я адчуваю: а пры чым тут чыноўнікі? Яны, як і мы, людзі паднявольныя і бяспраўныя. Хіба што адмысловыя выканаўцы і бліжэй за нас да дзяржаўнага карыта.

Усяму ж галава і прычына — прэзідэнт краіны. Ён і толькі ён вызначае, што і каму рабіць у дзяржаве. Урад і ўсё падурадавае чынавенства абавязаны браць "пад казырок" і бездакорна выконваць загады, распараджэнні, пажаданні і нават намёкі галавы дзяржавы. І пры гэтым рабіць выгляд, што выконваюць ахвотна, адабраючы чарговае рашэнне або каманду вярхоўнага як наймудрэйшае, дальнабачнае і вельмі прадуманае рашэнне. А ўпотай самі сабе думаюць...

Ну, вы ж здагадваецеся, што яны думаюць. Але ад іх думак і меркаванняў, якія яны адкрыта выказваюць толькі жонкам і то зарыўшыся з галавой пад коўдру, ці надзейным прыяцелям у гарадскіх скверах, куды ад недахопу сродкаў адпаведныя органы не ў стане прыляпіць "жучкі", — нічога не залежыць. Ім бы, як напісана ў Васіля Быкава, "дзень прастаяць ды ноч пратрымацца". А калі прыйдзе час ісці на пенсію, то і тады яны — не раўня нам. Не прападуць!

Сёй-той не толькі для сябе, але і для дзяцей і ўнукаў ужо зрабіў добрую "заначку". Яшчэ мае добры загарадны дом, які пры вострай неабходнасці можна прадаць і на выручаныя грошы катацца, як галушка ў масле, да канца дзён сваіх. Ды і больш маладыя аднакашнікі ў бядзе не пакінуць — прыстрояць на якуюнебудзь няпыльную работу, дзе будуць плаціць дзвесце-трыста баксаў у месяц. Добрая прыбаўка да пенсіі! Не тое, што нам — па 7 тысяч. Такую суму слязьмі назваць і то вялікі гонар.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

29 сакавіка ў Мінску прайшоў адборачны футбольны матч чэмпіянату Еўропы 2004 года паміж камандамі Беларусі і Малдовы. Выйгралі беларусы — 2:1. На здымку: момант гульні.

**Фота IREX/ProMedia.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Что позволено Юпитеру...

## Или о некоторых зигзагах руководства Комитета государственного контроля

**Олег ИГНАТЕНКО**

Предприятие "Белвнешторгинвест", как, впрочем, и большинство других структур с коммерческим уклоном, созданных Управлением делами президента, чувствует себя, как рыба в воде. У руководителей этой фирмы руки развязаны, свобода действий полная. А потому и размах будь здоров. К примеру, в 2001 году они взяли на себя инициативу и роль организаторов по реализации крайне запутанного (в интересах участников) проекта: поставки зерна Борисовскому комбинату хлебопродуктов, что в Минской области, с последующей переработкой его на спирт в совхозе "Поречье" Гомельской области и привлечением к сделке сомнительного посредника — фирмы "Крок" и т. д.

Какова география! Как будто фуражное зерно нельзя было переработать на Минщине, тем более, что двадцатипроцентную отсрочку по уплате НДС на поставляемое зерно давал именно Минский облисполком. Кстати, о предоставленной отсрочке по уплате НДС областные чиновники со временем как бы "забудут".

Приносившая немалые доходы бизнес-схема начала "трещать по швам", когда специалисты Комитета государственного контроля обнаружили в совхозе "Поречье" 20 тонн спирта — жалкие остатки от своевременно невывезенного "подпольного" продукта. Примечательно, что все заинтересованные стороны от "бесхозного" спирта сразу открестились и даже собственник переработанного для этих целей зерна— "Белвнешторгинвест" — стыдливо отвернулся.

По результатам такой, как бы сказать помягче, хозяйственной деятельности и за нарушения, связанные с ценообразованием, контролеры применили к "Белвнешторгинвесту" штрафные санкции в размере более 100 миллионов рублей, а обнаруженный спирт был конфискован в доход государства.

Не сумев "отбиться" от примененных ревизорами в соответствии с законодательством санкций, руководители "Белвнешторгинвеста" стали слезно просить об отсрочке их погашения. Казалось бы, о какой отсрочке может быть разговор, если тебя схватили, как говорят, с поличным. Но в Комитете госконтроля, похоже, сидят очень хорошие люди и им не чуждо такое чувство, как сострадание, а посему поддержали эту просьбу, а в 2002 году и вовсе отменили решение о взыскании с виновных ранее примененных санкций(?!). Убеждая членов коллегии в необходимости принятия такого решения, председатель КГК А.Тозик, видимо, смог найти нужную в таких случаях аргументацию.

А вот другой пример из государственных приоритетов. Еще в ноябре 1998 года тогдашний премьер-министр Сергей Линг своим распоряжением № 278р уполномочил только концерн "Белресурсы", в порядке расчетов за российский природный газ, поставлять продовольствие и материально-технические ресурсы белорусских производителей бюджетникам России. На первый взгляд, казалось бы, благое намерение. Но ведь у ряда хозяйствующих субъектов Беларуси до выхода указанного распоряжения уже были установлены связи и налажена работа с российскими партнерами. Тем более, что непосредственным производителям продукции гораздо выгоднее работать с россиянами напрямую — без каких-либо там посредников.

Возникает как минимум два вопроса. Первый — зачем Линг запустил "слона в посудную лавку"? Второй — не по причине ли внезапно "вклинившегося" концерна-посредника и монополиста сегодня на грани банкротства оказались многие белорусские предприятия, в частности, Ганцевичский консервный овощесушильный комбинат ОАО "Пищевик", где еще до лета 2002 года работало 450 человек, а сегодня многие из них вынуждены искать работу?

К разваливающемуся предприятию обратили свои взоры контролеры А.Тозика. Ну, думали рабочие, теперь-то все станет на свои места. И обманулись. Контролеры вскоре ретировались, видимо, считая, что спасение утопающих — дело рук самих утопающих... Хотя есть и другое мнение: проверяющим сказали не трогать концерн "Белресурсы", поскольку он под опекой у высоких чиновников. Очевидно одно — контролеры не расставили точки над "i" в отношениях между "Белресурсами" и периферийным концерном-комбинатом.

Говорят, аппетит приходит во время еды. То же Управление делами президента Республики Беларусь стало ну просто ненасытным. Вот и Департамент по гуманитарной деятельности решило поглотить. Этому предшествовала трехмесячная проверка его Комитетом госконтроля. За это время двадцать контролеров "перетрясли" все имущество ведомства, вплоть до нижнего белья. На коллегии Комитета госконтроля, где проводился разбор "полетов", тогда еще помощник президента и директор Департамента Виктор Кучинский не выдержал и в сердцах сказал: методы работы руководимого А.Тозиком ведомства очень схожи с тем беспределом по отношению к людям, который творился в тридцатых годах прошлого века.

Хотя Виктор Францевич и готов с гранатометом в руках защищать президента, его слова оказались гласом вопиющего в пустыне. Без него было принято решение: Департамент по гуманитарной помощи должен быть под крышей Управления делами президента, и нарушения, выявленные Госконтролем, это лишь для прикрытия "теракции". Так это или не так, но, похоже, действия контролеров нужны были для того, чтобы "увести" Департамент под юрисдикцию Управления делами президента.

### Губит людей не пиво...

Специалистами того же Комитета государственного контроля в первой половине 2001 года проводилась плановая проверка соблюдения законодательства при добыче и производстве минеральной воды. Проверкой была охвачена деятельность более половины из 73 предприятий, занимающихся этим видом бизнеса.

В итоговом документе, переданном начальником Главного управления КГК В.Цыдиком главе контролирующего органа А.Тозику, с тревогой обращалось внимание на то, что подземные запасы экологически чистой воды (питьевой и минеральной) в Беларуси используются нерационально. Доступность к источникам минеральной воды и ее прибыльность, при недостаточном контроле со стороны госструктур, приводит к серьезным нарушениям и злоупотреблениям. Приводились примеры, когда на сооружение скважин по добыче минеральной воды использовались бюджетные средства, а они затем передавались в эксплуатацию различным частным фирмам, получающим необоснованные доходы.

Вот только два примера из документа, направленного А. Тозику. Без лицензии, при отсутствии экологического паспорта проекта, без разрешения на бурение и оборудование скважин, в непосредственной близости от действующего кладбища, что недопустимо, в санатории "Поречье" Гродненского района (директор М. Колодко) добывалась и реализовывалась минеральная вода.

А брестская коммерческая фирма "Санта-Импекс" (директор А. Мошенский) брала обыкновенную воду для питьевых и хозяйственных нужд из скважины Каменецкого РПО ЖКХ и без лицензии, при хорошем рекламном обеспечении продавала ее уже как минеральную. Незаконный доход фирмы от такого немысловатого бизнеса составил 185 миллионов рублей (обязательные к применению в таких случаях штрафные санкции — 370 миллионов рублей). К слову, санитарная служба республики и ПО "Белгеология" вынесли свой вердикт по вскрытым безобразиям — запретили "Санта-Импекс" обманывать доверчивых граждан, обязав руководство Каменецкого РПО ЖКХ закрыть задвижку скважины, приносившую дельцам приличные барыши.

С целью дать принципиальную оценку работе должностных лиц министерств, не обеспечивших принятие должных мер по эффективному использованию природных минеральных вод и в связи с недостатками, вскрытыми проведенной проверкой летом 2001 года, специалистами КГК было подготовлено письмо тогдашнему премьер-министру Владимиру Ермошину. Но... Оно не дошло до адресата. Точнее — оно не было отправлено. Как, впрочем, не были применены и штрафные санкции. А речь-то шла не о десятках и не сотнях тысячах рублей, а о 370 миллионах (!). Колоссальнейшая сумма!!!

Читатель вправе воскликнуть: тогда какое же решение принял ко всем выявленным безобразиям руководитель КГК товарищ Тозик? Говорят, что материалы проверок и проект письма премьер-министру он положил под "сукно" с резолюцией примерно следующего содержания: "Что-то мне непонятно...". После чего плоды стараний огромного числа контролеров благополучно были похоронены, а о сотнях миллионов рублей, подлежащих взысканию в бюджет, вспоминать уже было просто неприлично. Безусловно, способность самостоятельно и оперативно принимать решения, а потом нести за них ответственность — это основная черта современного менеджера. Но в других случаях А.Тозик почему-то прибегает к коллегиальному рассмотрению итоговых документов крупных проверок. Даже тогда, когда штрафных санкций контролеры насчитывают гораздо меньше.

Все это и многое другое не могло не породить всякие слухи среди сотрудников аппарата Комитета государственного контроля. Кое-кто говорит, что к тому времени нужны были большие деньги на предвыборную кампанию одному из претендентов в президенты (до 9 сентября 2001 г. оставались считанные дни). Некоторые утверждают, что добыча и реализация всей минеральной воды в стране находится под патронажем Совета безопасности, а Тозик, будучи еще полковником, пришел в госконтроль именно оттуда — с должности заместителя Госсекретаря.

Чтобы поставить точку в повествовании о "мутной" воде, не запутавшись в разного рода версиях и предположениях, позволю себе обратить внимание читателя еще на три эпизода из этой истории.

Во-первых, летом 2001 года среди объектов Брестчины, которые посетил во время предвыборной кампании А.Лукашенко в сопровождении А.Тозика, была также фирма "Санта", где ее руководитель А.Мошенский демонстрировал высокому гостю... нет, не артскважину №38884/86 в деревне Дворцы ("минеральная" вода — это так, побочный бизнес "Санты"), а уникальный модуль по переработке рыбы, приобретенный фирмой с помощью средств Всемирного банка.

Во-вторых, начальника отдела областного Комитета госконтроля Станислава Еськова, принимавшего активное участие в проверке "Санты", "ушли" с работы за шесть месяцев до истечения контрактного срока.

В-третьих, уже через две недели после запрета на эксплуатацию скважины для указанной фирмы было сделано исключение: Минск дал добро на возобновление добычи и реализацию "минеральной" воды.

О подобных фактах официоз почему-то не любит распространяться, зато периодически и участливо государственные СМИ тиражируют победные реляции руководителя главного контролирующего ведомства страны на других стратегических направлениях.

Любят наши высокие чиновники повторять: мы стоим на страже интересов государства. Всегда ли? Вот и приведенные примеры заставляют серьезно задуматься. Попадись, как говорят, с поличным не "Белвнешторгинвест", а другая фирма, не имеющая крыши Управления делами президента, — так легко не отделалась бы. А почему остались на бумаге штрафные санкции контролеров КГК по отношению к "Санта-Импекс"? Почему, почему, почему... Ох, эти бесконечные почему. Взять их все да адресовать одному человеку — главе Комитета государственного контроля А.Тозику.

ПУЛЬС

## Амаль палова беларускіх прадпрыемстваў — банкруты

Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу, на 1 лютага налічвалася 5.635 стратных прадпрыемстваў, альбо 48,6 працэнта ад іх агульнай колькасці. На 1 лютага мінулага года доля стратных прадпрыемстваў складала 45,9 працэнта, па выніках 2002 года — 34,9 працэнта.

Найбольшая ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў у Магілёўскай вобласці — 60,2 працэнта. Затым ідуць Віцебская — 59,1, Гомельская — 55,4, Мінская — 53,1, Брэсцкая — 46,5, Гродзенская — 44,9 і горад Мінск — 26 працэнтаў.

## Рэальная зарплата знізілася ў студзені—лютым на 9 працэнтаў

На 8,7 працэнта знізілася ў студзені-лютым гэтага года рэальная налічаная зарплата рабочых і служачых Беларусі ў параўнанні са снежнем 2002 года.

Як паведамляе Міністэрства статыстыкі і аналізу, у лютым у параўнанні са студзенем зарплата вырасла на 1,9 працэнта (з 221.429 да 225.647 рублёў). На столькі ж павялічыліся і спажывецкія цэны, таму намінальны рост зарплаты ў лютым нават часткова не кампенсаваў яе рэальнае зніжэнне ў студзені.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## «Белтэлекам» зніжае тарыфы на доступ у Інтэрнет

У сувязі з пашырэннем знешняга шлюза выхаду ў сетку Інтэрнет РА "Белтэлекам", якое з'яўляецца ў Беларусі першасным Інтэрнет-правайдэрам, з 1 красавіка зніжае тарыфы на доступ у Інтэрнет па выдзеленай лініі, а таксама тарыфы на паслугі доступу да сеткі нацыянальных пастаўшчыкоў паслуг Інтэрнет, юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў.

Для прадпрыемстваў, што карыстаюцца доступам у Інтэрнет па выдзеленай лініі, з 1 красавіка ўводзіцца адзіная ўстановачная плата за падключэнне да абсталявання IP-вузла. Калі раней у залежнасці ад хуткасці і тыпу падключэння адначасовая плата вагалася ад 152 да 526 долараў ЗША, то цяпер яна будзе аднолькавая для ўсіх і складзе 100 долараў ЗША (без уліку ПДК).

Для правайдэраў з 1 красавіка зніжаюцца тарыфы: на 10 працэнтаў — на аплату пункта доступу ў месяц пры хуткасці патоку ад 128 кБіт/с да 2 Мбіт/с уключна, на 20 працэнтаў — на адначасовую плату за інсталяцыю міжнароднага лічбавага канала.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Эканамічнае становішча — кепскае

Больш за палову — 52 працэнты апытаных грамадзян рэспублікі ацанілі эканамічнае становішча Беларусі як кепскае. Прычым 13 працэнтаў з іх вызначылі яго як "вельмі кепскае". Пра гэта жыхары краіны паведамілі падчас нацыянальнага апытання, праведзенага сацыялагічнай лабараторыяй "Новак" 28 студзеня — 3 лютага 2003 года.

Каля траціны з іх (38 працэнтаў) назвалі эканамічнае становішча Беларусі "сярэднім". І толькі 5 працэнтаў — "добрым". Астатнія (5 працэнтаў) не здолелі ацаніць эканамічнае становішча краіны.

Адказваючы на пытанне "Як бы вы цяпер ацанілі эканамічнае становішча вашай сям'і", практычна роўная колькасць рэспандэнтаў назвалі яго кепскім (47 працэнтаў) і сярэднім (46 працэнтаў). І толькі 6 працэнтаў — добрым. Астатнія (1 працэнт) не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

КУЛУАРЫ

# Соломенная секретарша министра спорта

*Уже почти месяц министра спорта и туризма Беларуси Юрия Сивакова каждое утро в приемной встречает секретарша в кокошнике, национальном белорусском костюме и с букетом васильков в руках.*

Раньше у нового министра спорта и туризма вообще не было секретарши. Общался с посетителями, отвечал на телефонные звонки, записывал на прием и выполнял прочую секретарскую работу молодой парень, которого Юрий Леонидович привел с собой из Белорусского физкультурно-спортивного общества "Динамо". В бытность Сивакова председателем БФСО "Динамо" Игорь тоже работал у него в приемной.

До недавнего времени в кулуарах Минспорта говорили, что секретарь—адъютант Сивакова — уже как минимум майор. Хотя на самом деле **Игорь** — пока лишь студент-заочник одного из столичных вузов.

После того как в одной газете появилось несколько саркастичных строк о секретаре, который якобы носит портупею, помощник министра спорта и туризма **Николай Воробьев** твердо решил, что в приемной Сивакова все-таки должна быть женщина. В один прекрасный день, войдя в кабинет Юрия Сивакова, он объявил: *"Юрий Леонидович, секретаршу принесли. Может, посмотрите?".*

*"Принесли?!"*, — изумился Сиваков.

Новая секретарша Юрию Леонидовичу приглянулась с первого взгляда: рост примерно метр пятьдесят-шестьдесят, коса до колен, национальный наряд, букетик васильков в руках, романтично-игривый взгляд... Он даже распорядился, чтобы в приемной специально для нее повесили зеркало, картину и сделали специальную подставку.

Теперь соломенная барышня, мило улыбаясь, встречает министра и всех его посетителей в приемной. А всю черновую работу по-прежнему выполняет Игорь...

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

РЭГІЁН

## Дармавое малако скончылася

Селяніну, які аддае дзяржаве плён сваёй працы, трэба за гэта плаціць. Думка лагічная. Але яе доўга не маглі асэнсаваць чыноўнікі Віцебскага аблсельгасхарча разам з падначаленымі ім дырэктарамі малаказаводаў. І толькі ў апошні час груваткі воз сыравінных праблем прадпрыемстваў па перапрацоўцы малака на Віцебшчыне, здаецца, зрушыўся з месца. Новы кіраўнік аб'яднання "Віцебскмясамалпрам" Іван Лапатка, чалавек з сялянскімі каранямі і багатым гаспадарчым вопытам, вырашыў павярнуць сваё ведамства тварам да малаказдатчыкаў. "Перад дырэктарамі заводаў, — заявіў Іван Ігнатавіч, — я стаўлю задачу ў першую чаргу разлічыцца з насельніцтвам, а затым ужо выдаваць зарплату сваім работнікам".

Пазіцыя новага начальніка з'явілася адзіным выйсцем з тупіка, у які зайшлі адносіны аб'яднання з малаказдатчыкамі. Мінулы год паказаў, што закуп малака быў наладжаны нездавальняюча, а то і зусім з рук вон дрэнна. Калі, да прыкладу, у Віцебскім раёне летась было закуплена малака 98% у параўнанні з папярэднім годам, то ў Бешанковіцкім раёне — 58%, а ва Ушацкім — і таго менш. Прыгадаем, дарэчы, што вытворчасць малака на Віцебшчыне забяспечваецца калгасамі і саўгасамі толькі на 70%, а ўсё астатняе бярэцца ў сялянскіх рагуль, колькасць якіх менавіта з-за неплацяжоў хутка скарачаецца.

Адносіны дзяржавы з малаказдатчыкамі сёлета палепшыліся. Сваю ролю ў гэтым адыграла рашэнне аблвыканкама аб тым, каб 20% дзённай выручкі малаказаводаў лічыць недатыкальным запасам і акумуляваць для разлікаў з насельніцтвам. Як будзе выконвацца гэтая дырэктыва, пакажа час. Але станоўчыя вынікі ўжо ёсць. З пачатку бягучага года большасць малаказаводаў, акрамя тых, што знаходзяцца ў зоне Глыбоцкага малочнакансервавага камбіната, пагасілі сваю запазычанасць перад жывёлаводамі-прыватнікамі. Хоць і са спазненнем, але скасавана непрадуманая сістэма разлікаў за малако таварамі спажыўкааперацыі, што выклікала шмат скаргаў сялян, якім патрэбны былі не залежалыя рэчы, а "жывыя" грошы. Вопыт такіх разлікаў апраўдаў сябе толькі ў двух раёнах — Полацкім і Аршанскім, дзе ён, магчыма, будзе выкарыстоўвацца і надалей.

Затое з адабрэннем успрынялі жыхары вёсак іншае новаўвядзенне: арганізацыю пры сельсаветах спецыяльных механізаваных атрадаў для апрацоўкі прысядзібных участкаў. Але і гэтую добрую ініцыятыву рубіць на корані дзяржаўная бюракратыя. Атрады абклалі высокімі падаткамі, паліва ім прадаюць па такіх высокіх цэнах, што гэтыя каштоўныя структуры наўрад ці выжывуць. А гэта прывядзе да скарачэння кармавой базы прыватнай жывёлагадоўлі. І тады зноў паўстане пытанне, дзе браць сыравіну для малаказаводаў.

## Музыка ў Полацкай «Сафійцы»

Выбух папулярнасці арганнай музыкі, які адзначаецца цяпер у Еўропе, сваімі хвалямі ахапіў і нашу краіну. Меламаны Віцебшчыны і ўсёй Беларусі з нецярплівасцю чакаюць 4 красавіка. У гэты дзень намечана адкрыццё ў Полацку чарговага, XVI Міжнароднага фестывалю старажытнай і сучаснай камернай музыкі. Згодна з традыцыяй, ён адбудзецца ў Сафійскім саборы і будзе прысвечаны 20-годдзю гэтай унікальнай канцэртнай залы. Да юбілею рыхтуецца выстава матэрыялаў аб гісторыі храма і найбольш важных падзеях, звязаных з гэтым помнікам культуры. Наведвальнікі ўбачаць фотадакументы аб мантажы аргана спецыялістамі вядомай чэшскай фірмы "Рыгер Клос".

У юбілейным фестывалі прымуць удзел дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдова, беларуская арганістка Ксенія Пагарэлая.

Адбудзецца прэм'ернае выкананне канцэрта для аргана з аркестрам чэшскага кампазітара XVIII стагоддзя Францішка Брыксы.

На фестываль упершыню запрошаны аўстрыйскі арганіст Эрнст Трыбель і маладзёжны хор Славакіі.

Ужо не ўпершыню ў праграме фестывалю выступяць сусветныя зоркі: спявачка Вера Чумачэнка, якая выканае рамансы, і піяністка Маргарыта Фёдарава.

Арганізатары музычнага свята паклапаціліся аб яго даступнасці. Абанемент на ўсю праграму каштуе 15 тысяч рублёў, што на 30 тысяч менш за цану асобных білетаў на канцэрты.

## Оршазнаўства як навука

Прэзентацыя незвычайнага выдання адбылася ў Оршы. Кніга называецца "Оршазнаўства" і ўтрымлівае разнастайныя матэрыялы пра горад Оршу і Аршанскі раён.

Аўтарам кнігі з'яўляецца жыхар горада-спадарожніка Оршы-Барані — Віктар Жукоўскі, які пасля вучобы на геафаку БДУ 17 год адпрацаваў настаўнікам геаграфіі ў школе № 18, што ў Барані. Віктар Васільевіч — не толькі выдатны педагог, але і праўдзейны сябар Геаграфічнага таварыства Беларусі, арганізатар многіх падарожжаў са школьнікамі па родных мясцінах, аўтар шматлікіх публікацый у прафесійных геаграфічных часопісах, ініцыятар змястоўных "Аршанскіх чытанняў", якія сталі ўжо традыцыйнымі.

Кнігу В.Жукоўскага з вялікім задавальненнем успрынялі педагогі. У многіх школах раёна "Оршазнаўства" вырашана скарыстоўваць у якасці падручніка для вывучэння гісторыі і геаграфіі сваёй "малой" Бацькаўшчыны.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Як жыць? Як дажываць?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

І новыя "крутыя" гэтых чыноўнікаў у крыўду не дадуць. Цяпер чыноўнікі — ім, а потым "крутыя" — чыноўнікам. Так што нас, "багатых" пенсіянераў раўняць з імі не выпадае: гусь свінні — не таварыш! Гэта ж не мы, старыя і нямоглыя, пры сённяшнім стане адно яйка на два сняданкі стараемся раздзяліць. А яны часам на чорную ікру пагардліва паглядаюць. Ім бы устрыцы і крыветкі — на сняданак ды кубачак кавы "Манарх", што нават не ідзе ні ў якое параўнанне дарагая кава "Прэзідэнт", у якой пасля адпаведнай апрацоўкі высмакталі амаль усё карыснае, пакінуўшы нам адзін колер і пах. Палякі пра такі напой кажуць: "Такая кава толькі да дупы". (Даруйце за такі непрыстойны выраз. На беларускую мову гэта перакладаецца больш інтэлігентна: "Такая кава — не страва".) Нават на самую танную каву ў большасці беларусаў нестае сродкаў. Хоць новая прыказка і гаворыць: "Не я каву нашу, а яна мяне носіць". Праўда, іншы можа падумаць пра мяне: каму што, а свінні месіва... Я не пакрыўджуся...

Некаторыя чыноўнікі, нават высокага рангу, гаворачы аб праблемах беларусаў, часам кажуць праўду, але тая праўда, якая ў жыцці жорсткая, прынцыповая і безапеляцыйная, выказваецца імі, я б сказаў, неяк ласкава, паблажліва, памяркоўна, абавязкова ўжываючы выраз: "к сожалению, бывает еще и такое...". І пры гэтым: вобразна кажучы, "віляюць хвастом". Усё гэтак гаворыцца для таго, каб, крый Божа, не пакрыўдзіўся і не раззлаваўся яго непасрэдны начальнік, начальнік таго начальніка і, чаго добрага, сам прэзідэнт. Выкажашся больш абуральна, натапырыўшы шэрсць на загрыўку, — усціхаміраць! І не давядзі, Госпадзі, калі выкажаш сумненне ў правільнасці выбранага прэзідэнтам курсу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны або забяжыш наперад прэзідэнту і прылюдна прапануеш свае альтэрнатыўныя варыянты, тады "табе — каюк!", як гаварыў А.Райкін. Успомніце ў гэтай сувязі М.Чыгіра, В.Лявонава, В.Старавойтава... Быў бы чалавек, а знайсці яму артыкул у Крымінальным кодэксе і месца на нарах — няма праблем!

Дзеля справядлівасці варта агаварыцца, што, мажліва, некаторыя з сённяшніх чыноўнікаў ведаюць шляхі выйсця з жудаснага крызісу, але баяцца выказацца ўслых. Адзіны ў краіне палітык і стратэг не дазволіць такога вальнадумства. Страхам паралізаваны носьбіты ўсялякай ініцыятывы, альтэрнатыўнай думкі. І тыя, хто добра ведае прэзідэнта, выказваюць яму характарыстыку: упарты, непахісны і прынцыпова паслядоўны ў сваіх стратэгічных планах і меркаваннях, няхай сабе і камені з неба пасыплюцца, перуны з навальніцамі затопчуць і зальюць вадой зямлю. Як сказаў прэзідэнт, так і будзе! Няхай сабе ён сто разоў і памыляецца.

А я думаю, чаго яму баяцца? Ёсць жа ўрад, шматлікія чыноўнікі, на якіх заўсёды можна спісаць усе свае памылкі. Ды яшчэ напомніць народу: ён стараецца, начэй не дасыпае, але хараша ў яго не атрымліваецца таму, што ўрад кепскі, што чыноўнікі не падпарадкуюцца. І гэта кране частку электарата да слёз... Па-ранейшаму будуць спяваць свайму "бацьку" алілуя большасць сялян і найбольш затурканыя і артадаксальныя пенсіянеры, што жывуць у гарадах. У апошніх — настальгія па былым СССР, сацыялізму, няхай сабе і недаразвітаму. Нават паўгалоднае існаванне не дапамагае ім вылечыцца ад гэтай хваробы. Так і памруць, не разлучыўшыся са сваімі марамі-мроямі...

### Адкуль растуць «ногі і рогі»?

Вас, канешне ж, не на жарты ўразілі цэны не толькі на камунальныя паслугі. Разлічыўшыся з "жывадзёрамі", вы абяссіленыя нервова, усё ж такі зойдзеце ў харчовую краму, каб купіць, скажам, пакет кефіру, малака, а то і смятаны, нягледзячы на тое, што яны для вас занадта дарагія.

А зараз давайце разбяромся, адкуль растуць "ногі і рогі" ў гэтых харчовых тавараў. Уявіце сабе: калгас здае малако на раённы малочны завод па базаваму паказчыку тлустасці — 3,4 працэнта. Там пасля пярвічнай апрацоўкі малако адпраўляецца ў абласны цэнтр і сталіцу. Тут ужо да закупачнай цаны і "дывідэндаў" пярвічных перапрацоўшчыкаў дадаецца прыкладна сем розных падаткаў і адлічэнняў. Малако стала ў два разы даражэйшым і на выхадзе яно з'яўляецца разбаўленым ад аднаго да 3,2 працэнта, а таксама ў выглядзе смятаны, вяршкоў, масла. Такія прадукты адпраўляюцца ў гандлёвую сетку ўжо з удвоенай-утроенай цаной. Пасля гэтага гандаль накручвае сваю нацэнку і ў рэшце рэшт у вас вочы лезуць на лоб: малако і малочныя прадукты сталі каштаваць у 4—5 разоў даражэй за першасную закупачную цану.

Чаму я гэтак падрабязна расказаў вам пра "тэхналогію" накрутак на малочныя прадукты? А таму, што гэтая "тэхналогія" ўжываецца паўсюдна: дзяржаве патрэбны грошы, каб усім, хто па загадзе прэзідэнта не павінен трапіць у лік беспрацоўных і непатрэбных для вытворчасці людзей, можна было б нешта пакласці ў дзюбу, бо, стаўшы беспрацоўнымі, ён вельмі хутка працягне ногі. А так: былі б косці, а скура нарасце...

Пра ўсё гэта ведаюць у Адміністрацыі прэзідэнта і ва ўрадзе ад самых высокіх чыноўнікаў да прыбіральшчыц. Паляпшэння няма і, як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, не прадбачыцца. Сацыялістычная нахільнасць прэзідэнта дае свае вынікі. Не прадбачыцца карэннай рэканструкцыі эканомікі, сельскай гаспадаркі, прыватнага сектара, якія б, працуючы зацікаўлена, маглі б даць рабочыя месцы беспрацоўным і выплачваць большыя падаткі дзяржаве. А так, напэўна, збіраюць ва ўрадзе грошы да наступных прэзідэнцкіх выбараў. Назапашаныя да тае пары грошы перад прэзідэнцкімі выбарамі, калі цяперашні прэзідэнт зробіць усё, каб яшчэ раз пабыць на царскім Алімпе, сыпане бобам на электарат дзяржаўны "загашнік" і тыя зноў са спадзяваннем на лепшае хлынуць на выбарчыя ўчасткі. А калі не атрымаецца з выбарамі, то пастараюцца змяніць сёе-тое ў Канстытуцыі і "парламент" сам зможа выбраць прэзідэнта. Якога? Таго ж самага, што правіць намі сёння. А грошы? Пра якія грошы вы думаеце?! Не будзе іх. І пераканаюцца ў гэтым тыя, хто дажыве да тае пары...

## Прымусовай працы — Не!

*Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі камітэт" нагадала ўладам аб недапушчальнасці прымусовай працы.*

Падставай звароту праваабаронцаў стала копія рашэння Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта № 132 ад 24 сакавіка аб правядзенні 29 сакавіка "Дня падтрымкі сельскай гаспадаркі".

Паводле інфармацыі БХК, аблвыканкам даручыў гар- і райвыканкамам арганізаваць удзел усіх працоўных калектываў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, навучальных устаноў у правядзенні вясенніх палявых работ.

Аблвыканкам устанавіў таксама, што заробленыя на працоўных месцах сродкі пералічваюцца на рахунак Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні, а працы, выкананыя непасрэдна ў калгасах і саўгасах, залічваюцца ў лік фінансавай падтрымкі сельскай гаспадаркі.

Паводле звароту БХК, такія рашэнні ўлад парушаюць канстытуцыйныя правы грамадзян. Беларускі Хельсінкскі камітэт адзначае таксама, што кожны грамадзянін, заробак якога ўтрыманы без яго згоды, мае права звярнуцца ў суд з патрабаваннем вяртання заробленых сродкаў.

**Аляксей ШЭІН.**

